**Падпіска на "Газету для вас" на 2-е паўгоддзе 2010 года вядзецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі Брэсцкай вобласці**


**АЛЕЮ ПЕРАМОГІ-2010**



пасадзілі вучні і ветэраны каля СШ №3 г. Івацэвічы

**2**

**КРОК У БУДУЧЫНЮ...**



Пружанскі карэкцыйны цэнтр адзначае першы юбілей

**3**

**НЕ БЕЗ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ**



Усім светам сабралі грошы на лячэнне Арыны Семянчук

**14**



Выдавец УП "Газета для вас"

Выдаецца са студзеня 1997 года на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — адзін раз на тыдзень

# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

НАШ САЙТ У ІНТЭРНЭЦЕ
http://gdv.of.by

ІВАЦЭВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН
(Брэсцкая вобласць)

ISSN 1992-755X




№ 16 (747) 23 красавіка 2010 г., пятніца

Кошт свабодны (у розніцу)


# ГОРЫЧ ЧАРНОБЫЛЯ

## 26 красавіка — Дзень памяці трагедыі



Павел ДАЙЛІД

Святлана Макарэвіч працавала ў чарнобыльскай зоне.

**У калектыве Івацэвіцкага аддзела Дэпартамента "Ахова" працуюць і працавалі 11 чалавек, якія з'яўляюцца ліквідатарамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

Але сёння я хачу расказаць пра чарнобыльскі шлях Святланы Макарэвіч — адзінай жанчыны сярод ліквідатараў, што працуюць у нашым аддзеле.

У верасні 1986 года, пасля заканчэння першага курса Баранавіцкага прафтэхвучылішча Белкаапсаюза, Святлана была накіравана ў чарнобыльскую зону. Вось што яна расказвае сёння:

— Нараўлянскі край здзівіў сваім кантрастам: з аднаго боку, тут вельмі прыгожыя мясціны, а з другога — усё тут было закінутым. Асабліва гэта тычылася адселеных вёсак. Дарэчы, у мяне склалася ўражанне, што адсялялі менавіта маленькія населеныя пункты, а вялікія вёскі, як Кіраў, дзе я працавала, чамусьці не. Трэба адзначыць і тое, што ніхто з нас тады не ўпіраўся супраць паездкі ў чарнобыльскую зону. Так мы былі выхаваныя ў савецкія часы. І нам, дарэчы, плацілі там як звычайна, без усялякіх дадаткаў...

Усяго Святлана адпрацавала ў чарнобыльскай зоне дзевяць месяцаў і з'яўляецца ліквідатарам з адпаведнымі ільготамі, гарантаванымі дзяржавай.

Акрамя мяне і Святланы Макарэвіч, у ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС прымалі ўдзел наступныя супрацоўнікі нашага аддзела: Алег Чухрай, Аляксей Гарэўскі, Аляксей Сакута, Мікалай Гардзейка, Віктар Здзітавец, Васіль Зубковіч, Уладзімір Міхальчык, Пётр Каляда, Якаў Крот. І адносіны да ўсіх іх у нашым калектыве паважлівыя, бо яны ахвяравалі здароўем не дзеля грошай ці ўзнагародаў, а ад жадання дапамагчы беларусам.

**Віктар ГЕЙЦ,**
**начальнік**
**Івацэвіцкага аддзела**
**Дэпартамента "Ахова".**

# АЛЕЮ ПЕРАМОГІ-2010

## пасадзілі вучні разам з ветэранамі

**ІВАЦЭВІЧЫ. 17 красавіка ў сярэдняй школе №3 г. Івацэвічы прайшла акцыя "Дрэва Перамогі-2010".**

Акцыя была прымеркавана да надыходзячага 65-гадовага юбілею Перамогі ў Другой сусветнай вайне. Падчас мерапрыемства школу наведалі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны Іван Адамавіч Тарасевіч і Іван Іосіфавіч Карпук, якія разам з дзецьмі пасадзілі 10 дрэўцаў бэзу на алейцы па дарозе ў школу.

— Мы сімвалічна выбралі саджанцы бэзу, бо гэтае дрэва цвіце менавіта да Дня Перамогі, — распавяла намеснік дырэктара сярэдняй школы №3 Соф'я Аляксееўна Снітко, — і гэтая алея будзе нам нагадваць пра вялікую каштоўнасць мірнага жыцця, за якое мы ўдзячныя нашым ветэранам.

Павел ДАЙЛІД.



Павел ДАЙЛІД

Іван Адамавіч Тарасевіч з вучнямі падчас акцыі.

# И это не шутка!

**БЕЛООЗЕРСК. Говорят, что весь апрель — никому не верь! К счастью, это не относится к магазинам Белоозерской фабрики "Белкельме".**

Зайдя за покупкой кроссовок, был приятно удивлен, получив "Подарочный сертификат" на сумму тридцать тысяч рублей. Оказалось, фабрикой объявлена акция "Это не шутка!" Выдача "Подарочных сертификатов" в рамках акции "Это не шутка!" производится с 1 по 30 апреля 2010 г. при покупке первой пары обуви производства ЗАО СП "Белкельме". Предъявитель "Подарочного сертификата" имеет право на скидку при покупке второй пары обуви производства ЗАО СП "Белкельме" с 1 апреля по 30 июня 2010 г. Кстати, недавно ЗАО СП "Белкельме" выступило партнером 1/4 Евролиги КВН, которая прошла в концертном зале "Минск".

Николай ДЕНИСИК.

# Я цябе нарадзіў...

**ПРУЖАНЫ. Шостага красавіка ў РАУС паступіла паведамленне ад фельчара "хуткай дапамогі" пра тое, што напярэдадні ўрачам давялося аказваць медыцынскую дапамогу гараджаніну, пацярпеламу ад нажавога ранення.**

Як высветлілася, падчас сваркі нажавое раненне ў шыю нанёс свайму сыну бацька. Па факце праводзіцца крымінальнае расследаванне.

Васіль СНАПКО.

# Шматпавярховы дом

## гарэў у Бярозе

**БЯРОЗА. У Бярозе падчас пажару ў кватэры шматпавярховага жылога дома ратавальнікі эвакуіравалі 20 чалавек.**

Як расказаў прэс-сакратар Брэсцкага абласнога ўпраўлення МНС Сяргей Машноў, 14 красавіка ў 15.42 у цэнтр аператыўнага кіравання Бярозаўскага райаддзела па НС паступіла паведамленне ад жыхара пяціпавярховага дома на вуліцы Леніна. Ён праінфармаваў аб пажары ў кватэры на другім паверсе будынка.

На месца здарэння праз тры хвіліны прыбыў аўтамабіль хуткага рэагавання, дзве аўтацыстэрны пажарнай аварыйна-ратавальнай часткі №1 Бярозы.

"Да гэтага часу з акна кухні кватэры, дзе адбыўся пажар, быў бачны агонь і ішоў дым. З пад'езда, у якім размешчана кватэра, ратавальнікі эвакуіравалі 20 чалавек, якія знаходзіліся ў гэты час дома", — адзначыў Машноў.

Супрацоўнікі МНС не далі агню распаўсюдзіцца, пажар быў ліквідаваны за 15 хвілін.

Агнём пашкоджана маёмасць у кватэры, закураны сцены і столь. Магчымая прычына пажару — кароткае замыканне электраправодкі халадзільніка. Гаспадара кватэры, 40-гадовага мужчыны, дома ў гэты час не было. Урон ад пажару склаў 3 млн. рублёў. Выратавана матэрыяльных каштоўнасцей на 12 млн. рублёў.

З пачатку года ў Брэсцкай вобласці падчас пажараў выратавана і эвакуіравана 216 чалавек, выратавана матэрыяльных каштоўнасцей на 4,4 млрд. рублёў.

Ларыса ШЫГАНАВА.

# Дзіцячыя забаўкі з запалкамі

**ІВАЦЭВІЧЫ. Нядаўна здарыўся пажар у в. Воля, на падворку мясцовага жыхара.**

Тут полымя ахапіла стажок сена вагой каля двух тон. І хоць яго патушылі хутка, тым не менш, скарміць жывёле яго ўжо нельга. А вінаўнікам здарэння стаў унук гаспадара Антон, 2002 года нараджэння. Старэйшым было не да малога, яны накіраваліся пагасціць да сваякоў на суседнюю вуліцу. Варта заўважыць, што запалкі ў хаце дзядулі ад малога не хавалі. Таму ён спакойна аваладаў патаемнай скрыначкай, а праз колькі хвілін гульні каля стога з яго ўжо павалілі белы густы дым. Хлопчык імгненна пакінуў месца здарэння і ўцёк дамоў. Пажар заўважылі суседзі, выклікалі пажарных, паклікалі гаспадароў. Калі б не хуткае выяўленне пажару, то агонь мог перакінуцца на дровы, гаспадарчыя пабудовы.

Гэта ўжо другі пажар, калі агонь сыходзіць з дзіцячых рук: першае здарэнне месяц таму адбылося ў Даманаве. А летась на працягу года па віне малалетніх дзяцей адбылося тры пажары.

Нагадаю, што ўвогуле ў вобласці склалася даволі трывожная абстаноўка з пажарамі па віне дзяцей і гібеллю на іх саміх маллетніх вінoўнікаў. Так, адразу па двое дзяцей у сям'і загінулі ў Ружанах і Іванаве, а ў Камянцы маці сама вынесла з задымленага пакоя сваіх дачок, але малодшая была ўжо мёртвая.

Каб пазбегнуць пажару па віне дзяцей, усяляк імкнецеся папярэдзіць дзіцячыя забаўкі з агнём.

Валерый МОЛАШ.

# Свой тэатр

**БЕЛААЗЁРСК. У 2003 г. у Белаазерскім ГДК быў створаны маладзежны драматычны тэатр "Фантазія". Заснавальнікам і кіраўніком яго з'яўляецца Г. С. Давідзенка. У цяперашні час у тэатральнай студыі займаюцца як школьнікі, так і працоўная моладзь.**

Галіна Сцяпанаўна асаблівую ўвагу звяртае на распаўсюджванне мастацка-культурных каштоўнасцей і ў школьнай, і ў дарослай катэгорыі насельніцтва горада. У рэпертуар калектыва ўключаны самыя разнабаковыя пастаноўкі і спектаклі: "Крок у бессмяротнасць" Н. Мацяш, "Апошняя жанчына дона Хуана" Л. Жукавіцкага, а таксама шматлікія навагодняя казкі для дзяцей.

Кіраўнік тэатральнага калектыву шмат робіць апрацовак да сваіх спектакляў, самастойна падбірае музычны рэпертуар, піша песні. Артысты ў калектыве непрафесіяналы, але і ў іх, як у сапраўдным тэатры, ёсць свае любімыя ролі і любімая публіка.

Мікалай ДЗЯНІСІК.

# Лепшыя ў рэспубліцы

**ПРУЖАНЫ. Такога звання дамагліся па выніках работы за мінулы год работнікі ПМК-21.**

Як паведаміў дырэктар прадпрыемства В. С. Лук'янчук, галіновы рэспубліканскі конкурс праводзіцца штогод па ініцыятыве Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва РБ і Саюза будаўнікоў. Сёлета вынікі падводзіліся па васьмі намінацыях, у адной з якіх — "Лепшая генпадрадная арганізацыя"— і былі адзначаны пружанскія будаўнікі.

Васіль СНАПКО.

# Реконструкция ГРЭС

**БЕЛООЗЕРСК. С приходом весны работы по реконструкции блоков Березовской ГРЭС закипели с новой силой.**

Между тем, реконструкция пятого блока с надстройкой газовых турбин на Березовской ГРЭС вошла в перечень важнейших инвестиционных проектов, предусмотренных к реализации в республике в 2010 году, утвержденных постановлением Совета Министров. В результате модернизации значительно возрастет мощность, улучшатся технико-экономические показатели работы. Модернизация станции проводится по аналогии с модернизацией блоков №3 и №4, выполненных несколько лет назад. Мощность каждого из этих блоков была увеличена примерно в полтора раза. Кроме того, экономичность их работы повысилась на 10—15 процентов.

Кроме этого есть и еще одна важная причина для продолжения модернизации: Белоозерск — это город энергетиков, и ГРЭС — его градообразующее предприятие. Не модернизировать электростанцию — значит потерять кадры и "заморозить" сам город.

Николай ДЕНИСИК.

# Асуджана выхавальніца

**ІВАЦЭВІЧЫ. Да года папраўчых работ прыгаворана 33-гадовая выхавальніца Быценскага дзіцячага дома, з-за недагляду якой дзіця атрымала цялесныя пашкоджанні. Такое рашэнне прыняў 17 красавіка суд Івацэвіцкага раёна.**

20 лістапада 2009 года адзін з выхаванцаў дзіцячага дома залез на будаўнічыя рыштаванні, размешчаныя перад уваходам у спальны корпус дзіцячага дома, не ўтрымаўся і ўпаў. У выніку падзення 12-гадовы хлопчык атрымаў цялесныя пашкоджанні — пераломы касцей, ударныя раны і сінякі.

Дзеянні выхавальніцы кваліфікаваныя судом па ч. 1 арт. 165 Крымінальнага кодэкса (неналежнае выкананне абавязкаў па арганізацыі бяспекі жыцця і здароўя дзяцей). На працягу года папраўчых работ з яе будзе ўтрымлівацца 15% заработнай платы.

"Педагог не прызнала сябе вінаватай у інкрымінаваным ёй злачынстве і мае права абскардзіць прыгавор, які ў законную сілу яшчэ не ўвайшоў", — заўважыла Дзмітрук.

Ларыса ШЫГАНАВА.

# Крушэнне дэльтаплана

**У ПРУЖАНСКІМ раёне 15 красавіка ў выніку крушэння дэльтаплана загінулі два чалавекі.**

Як паведаміў намеснік брэсцкага транспартнага пракурора Віктар Строк, які знаходзіцца на месцы здарэння, аварыя адбылася прыблізна ў 10.40 каля вёскі Вялікія Якавічы пры правядзенні вучэбна-трэніровачных палётаў.

Паводле папярэдняй інфармацыі, дэльтаплан упаў з вышыні 80-100 метраў.

Загінуў камандзір судна, 1964 года нараджэння, другі дэльтапланерыст атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне Пружанскай цэнтральнай раённай бальніцы. У яго былі чэрапнамазгавая траўма, шматлікія ўдары і пераломы, ад якіх ён памёр 15 красавіка каля 18.00. Гэта жыхар Кобрына, 1959 года нараджэння.

Дэльтаплан належыць ТАА "Пружаны Авіяхімсэрвіс".

Праверку па факце крушэння мотадэльтаплана праводзіць Брэсцкая транспартная пракуратура і камісія дэпартамента па авіяцыі. Паводле папярэдніх звестак, дэльтаплан быў спраўны, яго рухавік працаваў і пасля падзення.

Як адзначыў Строк, па выніках праверкі будзе вырашацца пытанне аб распачынанні крымінальнай справы.

Ларыса ШЫГАНАВА.

# КРОК У БУДУЧЫНЮ...

## Пружанскі карэкцыйны цэнтр адзначае першы юбілей

**У красавіку цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця адзначае свой першы круглы юбілей. Дзесяць гадоў назад гэта ўстанова стала адной з першых, якія адкрываліся ў раёнах Брэстчыны. Як успамінае дырэктар цэнтра Т. М. Мелеш, пачынаць давялося з “нуля” не столькі ў матэрыяльным плане, колькі пры поўнай адсутнасці якога-небудзь вопыту і метадычных распрацовак.**



Васіль СНАПКО.

Начальнік аддзела адукацыі Іван Краўчук віншуе дырэктара Пружанскага карэкцыйнага цэнтра Тамару Мелеш.

Ранейшая методыка выхавання будучых пакаленняў амаль поўнасцю ігнаравала дзяцей з асаблівасцямі развіцця: меркавалася, што савецкае грамадства — самая здаровая нацыя, дзе няма інвалідаў. У выніку дзесяць гадоў таму ў раёне працавалі толькі два настаўнікі-дэфектолагі. Таму ў раёне было вырашана стварыць уласны цэнтр, які б стаў і кіруючай установай у арганізацыі адпаведнай работы.

— Працаваць даводзілася “па канспектах”, нават складалі самастойныя праграмы навучання такіх дзетак,— гаворыць Тамара Міхайлаўна. — Вялікую дапамогу нам аказвалі калегі з Івацэвіцкага ЦКРНіР, які адкрыўся крыху раней.

Цяпер у нас працуюць 17 чалавек, штогод дапамогу атрымліваюць да 70 выхаванцаў. І апошнія некалькі гадоў не толькі фізічную, але і духоўную пры падтрымцы нашых мясцовых святароў.

Дзякуючы існаванню ў раёне цэнтра карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, як зазначыў начальнік аддзела адукацыі райвыканкама І. У. Краўчук падчас нядаўняга савета дырэктароў аналагічных устаноў вобласці, які праходзіў на базе пружанскага ЦКРНіР, спецыяльнай адукацыяй на Пружаншчыне ахоплена амаль 100% дзяцей, якім гэта неабходна. У заслугу работнікам цэнтра можна паставіць і тое, што за дзесяць гадоў колькасць дэфектолагаў, якія працуюць у раёне, ўзрасла да 32 спецыялістаў!

Акрамя гэтага, калектыву ўстановы можна пахваліцца многім. За час свайго існавання цэнтр тройчы прымаў абласныя семінары, яго спецыялісты прымалі ўдзел у адпаведных форумах не толькі рэспубліканскага, але і міжнароднага ўзроўню, дзе іх дасягненні былі адзначаны даволі высока разам з аналагічнымі распрацоўкамі польскіх, германскіх і англійскіх калег. Пра гэта расказаў у сваім выступленні Іван Уладзіміравіч, які з нагоды юбілею цэнтра ўручыў граматы аддзела адукацыі Т. М. Мелеш, В. А. Варакінай, С. С. Богдан, С. У. Казарэз.

**Васіль СНАПКО.**
**г. Пружаны.**

# Пенопласт от “Добрыни”

**Компания “Добрыня” образовалась около трех лет назад. Благодаря инвестору — ИП “Инко-Фуд” ООО — в бросовом здании бывшего Березовского завода ЖБИ установили новое оборудование и организовали производство пенополистирола (пенопласта).**

Строительная компания “Добрыня” сегодня — это крупнейший производитель пенопласта в Республике Беларусь. Производственная мощность предприятия составляет 25000 м³ в месяц, что позволяет удовлетворить 60% потребности республики в пенопласте.

Этот энергосберегающий товар сейчас очень широко применяется при строительстве надежных и теплых домов. Современное импортное оборудование и технологии в сочетании с высокой квалификацией сотрудников компании позволяют изготавливать пенополистирольные блоки и плиты самого высокого качества.

Директор строительной компании “Добрыня” Александр Параскевич получил по итогам 2009 года хрустальный символ качества и диплом лауреата республиканского конкурса “Лучшие товары Республики Беларусь”, который вручил лучшим предприятиям председатель облисполкома К. А. Сумар.

**Николай ДЕНИСИК.**
**г. Береза.**

# Думкі ўслых

## Боль Чарнобыля

**23 гады назад, у 1987 годзе, я быў удзельнікам ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. Служыў афіцэрам у войсках сувязі Узброеных Сіл Беларусі. Працавалі ў 30-кіламетровай зоне. Па заканчэнні камандзіроўкі, якая зацягнулася замест аднаго аж на тры месяцы, вярнуўся дамоў.**

Толькі праз тры гады атрымаў пасведчанне ліквідатара з адзнакай арт. 18. Пасля перарэгістравання пасведчання ў 1995 годзе артыкул змяніўся на 19-ты. А на сённяшні дзень ніхто не ўспамінае нават паштоўкамі ў мой адрас. Атрыманыя балячкі так і не праходзяць. Групы інваліднасці меў усе: ад першай да трэцяй. Будучы на трэцяй групе ўжо амаль два гады, медыцынскія работнікі і мясцовай, Пружанскай, і Брэсцкай абласной МРЭК так дапяклі, што давялося пісьмова адмовіцца і ад трэцяй групы, хаця, як пенсіянеру ад ведамаснага міністэрства і ад сацыяльных служб, нават за першую групу інваліднасці, атрымліваў дабаўку да асноўнай пенсіі ўсяго 12000 бел. руб. Так і не дабіўся таго, каб маё захворванне залічылі атрыманым ў гэтай камандзіроўцы. На сённяшні дзень па асноўнаму захворванню я з'ядаю лекаў на 282000 бел. руб. кожны месяц. Пакуль іх выдаюць бясплатна, але з кожным годам атрымліваць іх становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Мабыць, прыйдзе час, калі і гэта будзе адменена. Нездарма ў нашай краіне інвалідаў мала. Для таго, каб хварэць, трэба мець моцнае здароў'е.

## ПЛАЧ

*(урывак з паэмы)*

*Плача вёска: — Што тут будзе?*
*Паўцякалі з хатаў людзі.*
*Без яды і, нават, рэчаў,*
*Паўцякалі ў далечча.*
*“Зберагчы дзяцей нам трэба”, —*
*Чутно было ад суседа.*
*Хмара чорная навісла*
*Па-над рэчкай карамыслам.*
*Ламачы, Бабчын, Грушное,*
*Брагін, Хойнікі, Руднoе,*
*Канатоп, Дуброва, Віць...*
*Колькі вёсак... толькі жыць.*
*Нездарма буслы вясною*
*Праляцелі стараною*
*Свае гнезды. Клёкат іх*
*Не пачуў ніхто з старых.*
*Вецер вые, нібы трызна.*
*Пад паветкаю бялізна.*
*Ды цяпер яна забыта*
*Тым, каму была пашыта.*
*І калыска дзяўчукова*
*З куклай-лялькай адмысловай*
*Прытулілася ля плота —*
*Браць з сабой было маркотна.*
*Зацягнула хмара неба.*
*А зярнят прасіла глеба.*
*Плача поле: — Кінь, малю,*
*Зерне ў цёплую раллю.*
*Толькі штосьці не відаць*
*Тых, каму пара кідаць.*
*Толькі пасхай з'елі здобы —*
*Ранкам выбухнуў Чарнобыль.*
*Стоўб падняўся да нябес —*
*Узарвалася АЭС.*
*Радыяцыя, заразы*
*На людзей пайшлі адразу.*
*Бацька ў полі кінуў трактар,*
*Паляцеў глушыць рэактар.*
*І сусед, і дзядзька з Блогі*
*Неслісь, у рукі ўзяўшы ногі.*
*І ніхто не знаў тады —*
*Няма рады ад бяды.*

**Мікола РУЦКІ.**
**г. Кобрын.**

# Як Айчынная вайна закранула Вашу сям'ю?

## Адказваюць жыхары г. Івацэвічы



**РАІСА СЯМЁНАЎНА:** Вайна закранула ўсіх. Мой бацька ваяваў у партызанскай брыгадзе Хмяльніцкага ў раёне Броннай Гары. У нас зараз нават і фотаздымкі ёсць.



**ВАЛЯНЦІНА МАТВЕЕЎНА:** Мае бацькі былі яшчэ падлеткамі, і ім дасталося складанае дзяцінства ва ўмовах вайны, акупацыі. Бацька мне расказваў пра гэтыя цяжкія часы.



**ГЕНАДЗЬ:** Мой дзядуля ў Пружанах знік без вестак на чацвёрты дзень вайны. І, у прынцыпе, нават на сённяшні дзень мы не ведаем усіх абставінаў гэтага.




**ІРЫНА МІКАЛАЕЎНА:** Мой бацька быў партызанам. Ён родам з вёскі Воля, у 18-гадовым узросце ваяваў у атрадзе імя Чарткова, прайшоў вайну, меў шмат узнагарод.



**АЛЕНА ВАСІЛЬЕЎНА:** Мой дзядуля быў партызанам, меў раненні. Увогуле, вайна ў сэрцы кожнага чалавека пакінула раны, аб якіх мы сёння павінны памятаць.

**У народ хадзіў Павел ДАЙЛІД (фота аўтара).**

# КАНКУРЭНЦЫЯ ЗАМЕНІЦЬ МАНАПОЛІІ

## У эканоміку Беларусі прыйдуць рэформы

**У сваім пасланні беларускаму народу і парламенту 20 красавіка Аляксандр Лукашэнка вызначыў стратэгічныя кірункі развіцця беларускай эканомікі на наступную пяцігодку.**



Як адзначыў кіраўнік дзяржавы, сёння на міжнароднай арэне ідзе перагляд прынцыпаў функцыянавання эканамічных сістэм. "Паспяховай з'яўляецца тая з іх, якая ўвесь час абнаўляецца, убіраючы ў сябе ўсё лепшае з сусветнага грамадства. У гэтай сувязі нам жыццёва неабходны якасны прарыў у эканоміцы", — заявіў Лукашэнка.

"Што можа яго забяспечыць? Новая тэхналагічная стратэгія. Яе складнікамі павінны стаць структурнае перайтварэнне эканомікі, якое прадугледжвае перавагу галін, што выпрабляюць прадукцыю з высокім дададзеным коштам, стварэнне высокатэхналагічных вытворчасцяў, здольных прапанаваць свету прынцыпова новыя віды тавараў і паслуг; фарміраванне рынкавых стымулаў для павышэння інавацыйнай актыўнасці ўсіх суб'ектаў гаспадарання", — сказаў Лукашэнка.

Наступны кірунак — выпрацоўка стратэгіі дзелавой актыўнасці. "Яе галоўны прынцып — канкурэнцыя на змену манаполіям. Думаю, наспела неабходнасць прыняцця дырэктывы №4 аб далейшай лібералізацыі эканомікі, скіраванай на развіццё прадпрымальніцкай ініцыятывы. Транзітная стратэгія, якая прадугледжвае рашэнне транспартных, камунікацыйных і фінансавых калідораў. Энергетычная стратэгія павінна быць узмоцнена за кошт больш актыўнага выкарыстання ўзнаўляльных крыніц энергіі, а таксама дыверсіфікацыі паставак традыцыйных крыніц энергіі", — заявіў Лукашэнка.

"Прарыў у эканоміцы немагчымы без стратэгіі інфарматызацыі. Мы гэта ўмеем рабіць не горш чым самыя перадавыя краіны свету", — адзначыў прэзідэнт.

Як сказаў Лукашэнка, у глабальным маштабе перавагу будзе мець тая эканамічная сістэма, якая дасягне больш высокай прадукцыйнасці працы, якасці прадукцыі і зніжэння яе сабекошту. З крызісу Беларусь павінна выйсці больш сучаснай і гатовай да больш жорсткай канкурэнцыі ва ўмовах не дакрызіснага, а паслякрызіснага свету", — сказаў ён.

# Адным сказам

● Для выхаду ў 2010 годзе на сярэднюю заработную плату ў 500 долараў ёсць рэзервы, заявіў на брыфінгу 17 красавіка начальнік галоўнага ўпраўлення макраэканамічнага аналізу і прагназавання Міністэрства эканомікі Беларусі Аляксандр Ярашэнка.

● Міністэрства фінансаў Беларусі прапаноўвае на працягу найбліжэйшых пяці гадоў "значна наблізіць" заработную плату ў бюджэтнай сферы да сярэдняй зарплаты ў краіне.

● Плануецца, што венесуэльская нафта паступіць на Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод у першай дэкадзе мая, паведаміў намеснік генеральнага дырэктара ААТ "Мазырскі НПЗ" Сяргей Саладоўнікаў.

● Вымпелам "За мужнасць і трываласць у гады Вялікай Айчыннай вайны" ўзнагароджаны пяць гарадоў Беларусі, у тым ліку і Пінск.

● З 22 па 25 красавіка на дзяржаўным узроўні праходзяць ўрачыстасці ў гонар 75-годдзя мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі.

● Беларусь укараніць тэхналогію сотавай сувязі і перадачы даных 4G аднaчасова з самымі перадавымі дзяржавамі, заявіў міністр сувязі і інфарматызацыі Мікалай Панцялей.

● Органы пракуратуры Брэсцкай вобласці выявілі шматлікія парушэнні парадку і працэдуры захавання за дзецьмі-сіротамі права карыстання жылымі памяшканнямі, з якіх яны выбылі.

● Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч просіць Міністэрства культуры скласці пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні ў сувязі са зменай архітэктуры Веляміцкай Ільінскай царквы — помніка драўлянага дойлідства XIX стагоддзя ў пасёлку Велямічы Столінскага раёна.

● Беларусы Дзмітрый Наскавец і Сяргей Сямашка 15 красавіка арыштаваны па абвінавачванні ў інтэрнэт-махлярстве ў Чэхіі і Беларусі па запыце ФБР ЗША, паведамляюць амерыканскія СМІ.

● У Пінскім раёне мясцовы жыхар спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, выпіўшы ртуць.

# Бакіеў у Мінску

**Курманбек Бакіеў з сям'ёй знаходзіцца ў Мінску. Адказваючы 20 красавіка на пытанні дэпутатаў парламента, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што Бакіеў "быў у Мінску ў панядзелак".**

"Ноччу ў панядзелак я даручыў адпаведным службам, каб арганізавалі перапраўку Бакіева ў Мінск. Ён аб гэтым прасіў, і не адзін. Ноччу ў панядзелак ён быў у Мінску", — сказаў прэзідэнт. Яму, паводле слоў Лукашэнкі, "прызначана медыцынская камісія, праведзена першаснае абследаванне сям'і" Бакіева.

Нагадаем, што 19 красавіка каля будынка пасольства Беларусі ў Кыргызстане прайшлі пікеты. Паводле інфармацыі мясцовых СМІ, іх удзельнікі патрабавалі ад беларускіх уладаў не прымаць Курманбека Бакіева і ў выпадку яго прыбыцця на тэрыторыю Беларусі — выдаць новым уладам Кыргызстана.

Чуткі пра тое, што Бакіеў вылецеў з Казахстана і можа знаходзіцца ў Беларусі, актыўна мусіраваліся 16—17 красавіка. Тады афіцыйны Мінск абверг гэтую інфармацыю.

Між тым, 17 красавіка намеснік старшыні ўрада Кыргызстана Азімбек Бекназараў заявіў: новыя ўлады Кыргызстана будуць мець "сур'ёзныя пытанні" да любой з краін СНД, якая дасць прытулак Курманбеку Бакіеву. На пытанне пра верагоднасць знаходжання Бакіева ў Мінску Бекназараў адказаў, што "Лукашэнка не пойдзе на гэта", бо паміж Беларуссю і Кыргызстанам "існуе пагадненне аб экстрадыцыі злачынцаў". Бекназараў нагадаў, што ў дачыненні да Бакіева распачата крымінальная справа "па фактах масавых забойстваў і узурпацыі ўлады".

# Беларусізацыя пошты

**Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў прапанаваў Міністэрству сувязі і інфарматызацыі ўсталяваць беларускамоўную версію на ўсіх камп'ютэрах, устаноўленых у паштовых аддзяленнях краіны.**

У лісце, накіраваным на імя міністра Мікалая Панцялея, Трусаў адзначыў, што ў грамадскае аб'яднанне прыходзяць лісты ад грамадзян Беларусі і іншых краін, якія скардзяцца на тое, што ў камп'ютэрах ва ўсіх аддзяленнях РУП "Белпошта" адсутнічае беларускамоўная версія і таму немагчыма набіраць тэксты на дзяржаўнай беларускай мове.

Аўтар ліста паведаміў, што спецыяльна наведаў Мінскі паштамт і пераканаўся ў адсутнасці на галоўнай пошце краіны камп'ютэраў з беларускамоўнай версіяй для друку. Гэта з'яўляецца грубым парушэннем дзейнай Канстытуцыі, сцвярджаецца ў лісце.

Трусаў прапанаваў Панцялею "зрабіць усё неабходнае, каб у бліжэйшы час усе паштовыя аддзяленні нашай краіны мелі ў сваіх камп'ютэрах беларускамоўныя версіі".

У адказе на ліст Трусава намеснік міністра Ніна Гаўрылава прызнала зварот абгрунтаваным і паведаміла, што аргументы старшыні ТБМ будуць "улічаны у пакачыках работы вытворчасці "Мінская пошта".

# Ліквідаваць сацыяльныя наступствы Чарнобылю

## Новая стратэгія Партыі БНФ

**Партыя БНФ мяняе стратэгію правядзення чарнобыльскіх мерапрыемстваў. Пра гэта 15 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў старшыня партыі Аляксей Янукевіч.**



Паводле яго слоў, сёлета Партыя БНФ адмовілася ад арганізацыі ў Мінску традыцыйнага шэсця "Чарнобыльскі шлях". "Заяўку на правядзенне шэсця падалі актывісты аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя". Такім чынам, арганізацыя і правядзенне "Чарнобыльскага шляху" кладзецца на іх", — зазначыў Янукевіч.

Замест "Чарнобыльскага шляху", прадоўжыў ён, актывісты партыі плануюць наведаць раёны, якія найбольш пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. "Мы наведаем гэтыя раёны, прывязем людзям гуманітарную дапамогу, наколькі гэта магчыма, пагутарым з імі, а таксама правядзем работы на помніках адселеным вёскам, — сказаў Янукевіч. — Мы хочам, каб нашы акцыі, прысвечаныя трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, мелі ярка выражаны сацыяльны характар".

Палітык распавёў, што ў хуткім часе партыя звернецца да Міністэрства аховы здароўя і Мінсельгасхарча з патрабаваннем неадкладна рассакрэціць поўную інфармацыю аб наступствах уплыву чарнобыльскай аварыі на здароўе нацыі; прывесці санітарныя нормы, што тычацца радыяцыі да стандартаў Еўрасаюза; аблегчыць працэдуру імпарту лекаў, неабходных для лячэння анкалагічных захворванняў. Апрача таго, Партыя БНФ запатрабуе павелічэння фінансавання адпаведных медыцынскіх устаноў, перанакіраваўшы для гэтага сродкі, якія выдзяляюцца з бюджэту на фінансаванне ідэалагічнай вертыкалі.

Партыя БНФ заклікае накіраваць сродкі агульнарэспубліканскага суботніка, які мае адбыцца 24 красавіка, у магілёўскі і гомельскі абласныя анкалагічныя дыспансеры. Паводле слоў Аляксея Янукевіча, у суботніку возьмуць удзел і члены Партыі БНФ. "Мы будзем заклікаць калектывы прадпрыемстваў, каб яны дабіваліся пералічэння сродкаў, атрыманых на суботніках, не ў нейкія абстрактныя фонды, а двум канкрэтным медыцынскім цэнтрам", — заявіў Янукевіч.

Нагадаем, Мінгарвыканкам дазволіў правядзенне 26 красавіка ў сталіцы шэсця "Чарнобыльскі шлях" па маршруце Акадэмія навук — парк Дружбы народаў. Адпаведны дазвол атрыманы арганізатарамі 20 красавіка. Збор удзельнікаў акцыі запланаваны на 18.00.

# Вулкан не пагражае Беларусі

**Воблака вулканічнага пылу не паўплывала на стан прыземнага атмасфернага паветра ў Беларусі, сцвярджаюць спецыялісты.**

У прыватнасці, як паведаміла начальнік аддзела па аналізе інфармацыі і прагназаванні ўзроўню забруджвання Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу навакольнага асяроддзя Багдана Казярук, воблака пылу, які выкідвае вулкан у Ісландыі, знаходзіцца на вышыні больш чым шэсць кіламетраў і не ўплывае на стан паветра, якім дыхаюць людзі.

Паводле яе слоў, запыленасць паветра перавышае якасныя нарматывы толькі ў раёне Мінскага трактарнага завода, аднак гэта "назіраецца даволі часта". У астатніх раёнах Мінска і іншых гарадах перавышэнняў утрымання забруджвальных рэчываў не зафіксавана, паведаміла спецыяліст.

**Паласа падрыхтавана па матэрыялах БелаПАН.**

